ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




## Сучаснае варварства

*Перад аўстралійскім судом паўсталі чатыры чалавекі, якім інкрымінуюць наўмыснае забойства жанчыны.*

49-гадовая Джаан Волмер стала аб'ектам зверства цырымоніі "выгнання злога духу", у якой чацвёрка і ўдзельнічала. На лаўцы падсудных апынуўся і муж загінуўшай, які быў ініцыятарам "выгнання д'ябла" з Джаан.

"Супер чэннэл"

## Апраўдальны вердыкт

*У Злучаных Штатах завяршыўся гучны працэс над 65-гадовым урачом-пенсіянерам Джэкам Кеваркянам, які дапамог 20 чалавекам пайсці з жыцця.*

Прыхільнікі Кеваркяна лічаць яго амаль што святым. Ён і сам называе сябе духоўным нашчадкам Энштэйна, Пандзі і Марціна Лютэра Кінга і параўноўвае сваю дзейнасць з хрысціянскай місіяй. Суд вынес Джэку Кеваркяну апраўдальны вердыкт.

"Еўраньюс"

## "Нісан" па-кітайску? Жыццё прымусіла...

*Японскі аўтамабільны канцэрн "Нісан" пачынае вытворчасць 10-тонных грузавікоў у Кітаі.*

Гэты крок прадыктаваны рэзкім павелічэннем попыту на японскія грузавікі на кітайскім рынку. Паводле папярэдніх прыкідак, на сумесным япона-кітайскім прадпрыемстве будзе вырабляцца да 2400 аўтамабіляў у год.

* * *

*Тым часам сама Японія мае вялікія цяжкасці са збытам аўтамабіляў. У красавіку тут на 45 працэнтаў, у параўнанні з папярэднім месяцам, скараціўся аб'ём продажу машын.*

Больш за ўсё, адзначаюць аглядальнікі, у выніку спаду попыту на аўтамабілі пацярпелі японскія гіганты "Хонда" і "Нісан".

"Уорлднэт"

## Беспарадкі ў Карачы

*У Карачы пяць дзён не спыняюцца вулічныя баі паміж паліцыяй і прыхільнікамі Нацыянальнага руху Махаяр, які прадстаўляе выхадцаў з Індыі, што гавораць на "ўрду".*

Шпіталі Карачы перапоўнены раненымі, за час вулічных беспарадкаў забіта некалькі дзесяткаў чалавек. У горадзе не спыняюцца пагромы.

## Журналістам трэба нарадзіцца... ў Бельгіі

*Эксперты з Незалежнага праваахоўнага міжнароднага цэнтра (ЗША) прыйшлі да высновы, што самая свабодная прэса — у Бельгіі, а самая несвабодная — у Іраку.*

Сярод 43 краін, умовы ў якіх прызнаны неспрыяльнымі для работы журналістаў,— Куба, Таджыкістан, КНДР і Кітай.

"TV-5"

## Ахвяры рэжыму церпяць... ад яго знікнення

*Канадскія ўлады вырашылі дэпартаваць 2 600 бежанцаў з былога СССР, якія цяпер пражываюць у раёнах Таронта.*

Такую пазіцыю афіцыйныя чыноўнікі тлумачаць тым, што ў сувязі са знікненнем умоў, якія былі прычынай ад'езду нашых суайчыннікаў з краіны, яны ўжо не падпадаюць пад катэгорыю бежанцаў ад рэжыму.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

# Толькі крыху ўвагі...

☐ Міхаіл ЛІБІНТАЎ

— Дапамажыце мне дабрацца дамоў...

Як яна ўзнікла перада мной, маленькая сівая жанчына ў выцвілай хустцы?

— Вам што, дрэнна?

— Не, цяпер ужо крыху лепш, толькі ніяк не магу трапіць дамоў, а жыву ж зусім побач.

У вачах незнаёмкі былі збянтэжанасць і нейкая вінаватасць. Я спытаў адрас, аказалася, сапраўды побач. Узяў з рук жанчыны авоську з няхітрым "багажом" і павольна павёў яе дадому. Побач шаркалі стаптаныя боцікі, ледзь чуўся старэчы голас: "Вы не вельмі спяшаецеся?.. Трэба такому здарыцца... Я ж не заўсёды была старой, інжынерам працавала больш як сорак гадоў. На праспекце Скарыны радыёзавод ведаеце?"

Мы падышлі да яе пад'езда. Я папрасіў нумар тэлефона, паабяцаў патэлефанаваць або зайсці на гарбату. "Дык навошта ж адкладваць?"— спытала яна, паглядзеўшы на мяне даверлівымі, добрымі вачыма.

Прыйшлося пазваніць таварышу, папрасіць прабачэння за вымушанае спазненне на дзелавую сустрэчу. Жаль (а ў яго ёсць свой разумны сэнс) прымусіў мяне зайсці ў кватэру.

— Праходзьце, калі ласка, сюды, я вас са "сваімі" пазнаёмлю.

Клаўдзія Васілеўна (так звалі жанчыну) ужо без паліто стаяла ў пакоі з мноствам фотаздымкаў на сценах.

— Гэта я. Не пазнаць? Мы з сяброўкай пасля маёўкі хадзілі купацца на возера. Уявіце сабе — 1936 год. Я яшчэ толькі-толькі прыйшла на завод. Інстытут скончыла пасля вайны, калі вярнулася ў Мінск. Тады мы, моладзь, працавалі не "ад і да", а столькі, колькі трэба. І адпачывалі разам. Дружба была бескарыслівая, моцная. Кожны з нас мог падзяліцца апошнім...

А вось гэты кучаравы — муж, прайшоў з баямі ўсю вайну. Трыццаць гадоў жыў з асколкам ад снарада ля сэрца... А зараз я ўдава. Гэта — мой старэйшы сын, ваяваў у Афганістане, там і загінуў. Малодшы — на фотаздымку побач, з жонкай і двума дзецьмі. Унукі мае ўжо дарослыя...

А потым яна ўсё падлівала мне гарбату, а да сваёй так і не дакранулася — расказвала пра пражытыя гады. Ніводнага разу не пачуў я дрэннага слова пра людзей, не было і крыўды, тым больш злосці на блізкіх, не было скаргаў на сённяшні час. І мне да болю ў сэрцы стала шкада гэтую прыветлівую, мілую жанчыну.

— Ведаеце, як марудна цягнуцца для мяне дні,— расказвала Клаўдзія Васілеўна. — Летам хоць пасяджу з суседкамі на лаўцы, а зараз дома і дома. Тэлевізар больш як два месяцы не працуе, а ў рамонтную майстэрню не тэлефаную, бо ўнук абяцаў сам дапамагчы... Прыйшлося на 8 Сакавіка канцэрт па радыё слухаць. Ёсць у мяне сяброўка — жыве з дзецьмі ў Мінску. Прыйдзеш да яе, а яна сама не гаспадыня ў кватэры, як быццам у госцях у чужых людзей знаходзіцца.

І раптам, быццам зразумеўшы, што я вось-вось задам ёй, магчыма, не вельмі прыемнае пытанне, Клаўдзія Васілеўна схамянулася:

— Не падумайце, што сын, нявестка, унукі ў мяне дрэнныя. Захварэю, патэлефаную — збегаюць у аптэку, прынясуць лекі. Я з імі ладжу, дзяліць нам няма чаго. У маладых зараз свае клопаты, цяжка ім... Нявестка занялася камерцыйнымі паездкамі, уся кватэра — на сыне. Ды яшчэ нядаўна дзеці набылі дарагую сабаку... Вось унучка — тая часцей наведвалася, але зараз яна чакае дзіця.

Як хочацца Клаўдзіі Васілеўне апраўдаць сваіх дзяцей — ім, маўляў, не да яе. Спрацоўвае вечны мацярынскі прынцып — зразумець і дараваць. Можа, сапраўды, сын, нявестка, унук — добрыя людзі. І калі здарыцца са старой бяда — яны будуць побач. Калі скажу я ім, дапусцім, што маці, бабуля пакутуе ад адзіноты, напэўна, здзівяцца: чаго ёй не хапае? Які ж трэба спазнаць "голад" у зносінах з людзьмі, у жывым слове, каб узяць "за гузік" першага сустрэчнага і прывесці дамоў.

...Бяда наша ў тым, што з маладымі мы надта мала гаворым пра старасць. Рыхтуем чалавека да школы, да выбару прафесіі і г.д. Быццам бы на ўсё жыццё прапануем перспектыву: вучыцца, працаваць, жаніцца. Іншы раз чуеш:"Не гаварыць жа з пялёнак пра старасць! Вось прыйдзе яна, і кожны сам усё зразумее". Але старасць часта застае знянацку. Чалавеку самому цяжка ў сабе разабрацца, прыстасавацца да новай ролі, дзе ж там іншым яго зразумець?

Аднаго разу, чытаючы лекцыю ў дзесятым класе мінскай школы, спытаў у дзяцей:"Чаму так кажуць: старасць — не радасць?" "Ну, гэта ж вядома!— пачуў у адказ.— У маім узросце мне ўсё хочацца. А калі стукне сорак (?!), нічога ўжо не захочацца".

Відаць, бацькі гэтага дзесяцікласніка ўпэўнены, што ў шэсцьдзесят чалавеку і наогул нічога не патрэбна. Адпрацаваў сваё, пенсію атрымаў і жыві. Якія складанасці? Або ён, гэты падлетак, бачыць у сваіх саракагадовых бацьках толькі адну пасіўнасць, нежаданне пастаянна імкнуцца да новых эмоцый, новых учынкаў?

Чалавеку шмат трэба і ў трыццаць, і ў шэсцьдзесят, і ў восемдзесят гадоў. Паверце, калі з цягам часу вашы дзеці стануць дарослымі, а вы, бацькі, вядома ж, пастарэеце, бумерангам вернецца да вас тое, што бачылі яны ў сваёй сям'і ў адносінах да дзядулі і бабулі. Старым людзям, блізкім і чужым, патрэбна толькі крыху ўвагі.

З ЖЫЦЦЯ ЧАЦВЕРАНОГІХ

# Нумар "люкс" для... Бобіка



*Кажуць, што на памылках вучацца. Добра, калі гэта "бяскрыўдныя" памылкі, якія не каштуюць нікому ані здароўя, ані жыцця.*

*Памятаю, як балюча было назіраць, калі на вачах паміраў сабачка, якому мы своечасова не зрабілі прышчэпку ад чумкі, як пакутавала тады разам з ім уся наша сям'я. Гэта прымусіла засвоіць пэўныя правілы догляду жывёлы...*

*Цяпер я ведаю нямала — і як карміць, і як лячыць "чацвераногіх сяброў". Радуюся, калі дома мяне сустракае аддану Цім, падабраны ў жорсткі мароз на вуліцы (але гэта ўжо іншая гісторыя), і стараюся не зважаць на крыху падрапаныя дзверы ў кватэры...*

Калі вы ўзялі ў дом сабаку, лічыце, што завялі яшчэ адно дзіця. Першыя месяцы яго знаходжання ў кватэры верным вашым спадарожнікам будзе анучка, каб падціраць лужынкі, якія маюць уласцівасць узнікаць зусім нечакана ў розных месцах, у розны час сутак. Запасіцеся цярплівасцю выконваць гэту працэдуру, а таксама гуляць са шчанём у любое надвор'е, прывучаць яго да каманд і гатаваць яму збалансаваную і смачную ежу: расце ж! І калі вы пройдзеце праз усё гэта, лічыце, у вас з'явіўся яшчэ адзін сябар і ахоўнік.

...Адна мая знаёмая, Ганна, з дзяцінства вельмі любіла сабак. А паколькі бацькі дазвалялі трымаць дома толькі кошак, займалася Мурkамі і марыла пра сабаку. Звычайныя каты ў яе, бы ў цырку, скакалі цераз палачку, куляліся, выконвалі розныя каманды — гэта захапляла і здзіўляла ўсіх знаёмых.

Мінуў час, у Ганны з'явілася свая сям'я. Рэчаіснасцю зрабілася і яе мара пра сабаку, выхаванню якой удзялялася шмат часу. І зноў здзіўляліся ўсе, як добра гэта атрымліваецца ў дзяўчыны, які паслухмяны ў яе сябар.

Магчыма, адсюль і нарадзілася ідэя зрабіць гасцініцу для... сабак.

"Даглядаць чацвераногіх — гэта лепшае, што я ўмею рабіць у жыцці, — лічыць Ганна. — А ў працы чалавек павінен рэалізоўваць лепшыя свае здольнасці".

Дом, дзе яна цяпер жыве, падлягае перасяленню, і сям'я марыць пра свой прыватны домік у Мінску. Тут былі б і вальеры, і нейкае памяшканне для жывёлы. Пакуль што сабакі размяшчаюцца ў Ганнінай кватэры — рэдка калі яна бярэ дзвюх жывёлін адначасова, толькі, калі ўпэўнена, што яны будуць мірна "суіснаваць".

Падобнымі паслугамі карыстаюцца, як правіла, даволі заможныя людзі, бо плата за дзень знаходжання ў "гасцініцы" — 4-5 даляраў. Але за два гады дзейнасці з'явіліся ўжо і сталыя "кліенты". Гаспадары спакойныя: сабака будзе есці такую ежу, да якой прызвычаіўся, гуляць столькі, колькі заўсёды. Да таго ж яго не кінуць на ўвесь дзень аднаго ў пустой кватэры і яшчэ, акрамя ўсяго, будуць займацца нават яго "выхаваннем".

Такім чынам, паважаныя чытачы, занатуйце тэлефон Ганны: 39-73-84, а раптам давядзецца ім пакарыстацца? І не толькі, каб "прыстроіць" свайго сябра ў гасцініцу. Ганна параіць, як лепш даглядаць, карміць, лячыць сабаку, якую пароду выбраць, калі вы толькі збіраецеся набыць шчанюка.

Напрыклад, усходняя, сярэднеазіяцкая, каўказская аўчаркі, на думку Ганны, павінны жыць не ў кватэры, а пры прыватным доме. Гэта вальерны сабака, яго можна цудоўна выдрэсіраваць, але ўсё роўна ён застаецца напаўваўком, крыху дзікаватай істотай. І трымаць аўчарку лепш на свежым паветры — хаця б з меркаванняў гігіены.

А ёсць сабакі, якія псінай зусім не пахнуць, — афганскі хорт (борзая), напрыклад. І поўсць не сыплецца. Адзіная праблема — гэта парода патрабуе вялікага дагляду за поўсцю. Увесь час яе патрэбна старанна расчэсваць. "Няма часу — лепей не браць такога сабаку. Бо зваляецца поўсць — не дадзіце рады, — раіць Ганна. — А ўвогуле гэта парода добрая, дома даволі памяркоўная, вось толькі на вуліцы не заўсёды слухаецца. Яшчэ, да прыкладу, даберман — парода складаная, нервовая, узбуджальная. А, дарэчы, лепш выбіраць сабаку самому, пад свой характар і звычкі — нездарма ж кажуць, што сабакі падобныя на гаспадароў".

Наталля ПЛЫТКЕВІЧ.

МАЛАДЗЕЧНА — 94



Днямі ў зале Рэспубліканскага культурна-інфармацыйнага цэнтра адбыўся 2-і тур конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні, які праходзіць у межах II нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-94". 1-ы тур прайшоў па абласцях — ён вызначыў на другі тур 20 выканаўцаў.

Перад журы стаяла цяжкая задача — адабраць з гэтых таленавітых маладых спевакоў 12 чалавек, што прымуць удзел у 3-м туры, які пройдзе ўжо ў Маладзечна 10-12 чэрвеня г.г.

Журы склалі аўтарытэтныя і вядомыя асобы, якія маюць непасрэднае дачыненне да песні, да асветніцкай культуры. Старшыня — Э.Ханок, кампазітары Л.Захлеўны, Э.Зарыцкі, В.Раінчык, В.Іваноў, А.Елісеенкаў, паэты У.Някляеў, Л.Дранько-Майсюк, У.Карызна заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь В.Дайнека, А.Шпянёў, музычны аранжыроўшчык У.Ткачэнка, журналісты — П.Якубовіч, Т.Абакумоўская, дырэктар інстытута праблем культуры У.Скараходаў, дырэктар музычнага вучылішча Маладзечна Г.Сарока. У якасці госця запрошаны мэр Маладзечна Г.Карпенка.

Акампаніраваў маладым выканаўцам Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М.Фінберга.

Жанна МАЁРАВА.
Фота аўтара.






ДЗЕЦІ І МЫ

# Калі трохгадовыя "піраты" бываюць стараннымі вучнямі

☐ Аксана КОЎШЫК

*Дзверы расчыніліся — і з нудна-дажджлівай вуліцы мы трапілі ў сапраўдную вясну. Тут было цёпла і ўтульна — і ў дадатак пахла нечым вельмі смачным. Галодныя і стомленыя — толькі-толькі з цягніка — мы з захапленнем глядзелі на зусім дамашнія фіранкі, размаляваныя смешнымі зайцамі і ваўкамі, на сцены колеру яркага веснавога неба, на кветкі — неверагодную колькасць кветак, што траплялiся літаральна ўсюды... А неўзабаве нам ужо ўсміхаліся жыццярадасныя чатырохгадовыя гімназісты.*

Так, я нічога не пераблытала — менавіта гімназісты. І менавіта такога ўзросту. Зусім нядаўна, у лістападзе мінулага года, дзіцячы сад № 74 г.Магілёва ператварыўся ў дашкольную гімназію "Надзея". Але новая шыльда — далёка не заўсёды новы сэнс. Таму, перш за ўсё, я і вырашыла даведацца, чым адрозніваецца гэтая навамодная ўстанова ад звычайных дзіцячых садкоў, — накіраваўшыся, натуральна, да дырэктарскага кабінета.

— Розніца, безумоўна, ёсць. У першую чаргу, — у тым, што мы імкнёмся правільна выхоўваць дзяцей, — паведаміла дырэктар Ларыса Мацвееўна Пузевіч. — Лічу, што гэта не пустыя словы. Перш чым аб'явіць наш садок гімназіяй, мы цэлыя тры гады патрацілі на эксперыментальную работу. Перабралі вялізную колькасць разнастайных праграм для дашкалят. І ў рэшце рэшт спыніліся на распрацоўцы маскоўскага псіхолага Яўгена Шумейкі. Чым ён так спадабаўся? Прынцыпова новымі поглядамі на ўзаемаадносіны паміж дзецьмі і выхавальнікамі. І малыя, і дарослыя быццам гуляюць у адну гульню, прычым, менавіта дзеці выбіраюць, якой ёй быць. Педагог не мае права нічога ім навязваць, нават прымусіць спаць ці займацца англійскай мовай, калі дзецям гэта не спадабаецца.

Магчыма, нехта ўжо схапіўся за галаву, — маўляў, ніякай жа дысцыпліны не будзе! А яна і не трэба, — растлумачылі мне. Ва ўсякім разе такой, якую спрабуюць "укараніць" у нашых дзіцячых садках. Бо дзіця, наогул, не можа быць дрэнным і дрэнна сябе паводзіць. Гарэзы — яны, як правіла, больш здольныя, нават таленавітыя, і калі іх увесь час "заганяць" у жалезныя рамкі дысцыпліны, нічога добрага не атрымаецца.

Дзеці гэтак жа, як і дарослыя, церпяць ад стрэсаў. І час ад часу ў іх таксама ўзнікае жаданне на кім-небудзь спагнаць злосць. У садку-гімназіі ёсць спецыяльныя пакоі псіхалагічнай разгрузкі, дзе малы можа крычаць, лупіць плюшавых пудзілаў, уяўляючы сябе індзейцам, піратам або разбойнікам. Згадзіцеся, гэта многа лепш за тое, калі дзетсадаўцы спрабуюць "высвятліць адносіны", усчыняючы бойку паміж сабою...

Самыя маленькія тут — трохгадовыя дзеткі. Якраз з гэтага ўзросту малы пачынае ўсведамляць самога сябе, у яго з'яўляецца патрэбнасць зносін са сваімі равеснікамі, ён ужо разумее, што не падобны да іншых. Дзіця з задавальненнем спрабуе ляпіць, маляваць, займаецца музыкай і нават замежнай мовай. Што, дарэчы, і прапаноўваюць яму ў гімназіі. Дадаткова да агульных заняткаў тут яшчэ працуюць і разнастайныя гурткі (ёсць свой "дзетсадаўскі" — дакладней, "гімназічны" — аркестр, свае юныя гімнасты, нават уласны цырк), якія вельмі дапамагаюць зэканоміць час бацькам, што звычайна імкнуцца даць сыну ці дачцэ "найбольш гарманічнае выхаванне". І цягнуць малых спачатку ў музычную школу, потым — у Палац піянераў і школьнікаў (які носіць цяпер іншую назву), потым яшчэ куды-небудзь — толькі б паспець! Пэўны сэнс тут ёсць — хто ведае, што за здольнасці выявяцца ў дзіцяці, — але, калі ўсе "культурныя кропкі" знаходзяцца не побач, не раз прыйдзецца перагледзець уласныя планы, каб даставіць свайго "вундэркінда" па ўсіх патрэбных адрасах.

Дарэчы, не варта думаць, што юныя гімназісты перагружаны шматлікімі заняткамі — на гэта тут адводзіцца ўсяго некалькі гадзін на працягу чатырох дзён. Увесь астатні час дзеці проста гуляюць. Нават камп'ютэрны клас у іх літаральна "завалены" цацкамі і кветкамі...

Між іншым, каштуе гэтае "задавальненне" толькі на 20 працэнтаў даражэй, чым плата за звычайныя садкі. "Смешныя" грошы, калі ўлічваць, што ўзровень навучання ў садку-гімназіі нават вышэйшы, чым у пачатковай школе, а шасцісямігадовыя выпускнікі да ўсяго яшчэ атрымліваюць ад псіхолага (ёсць тут і такое) своеасаблівую характарыстыку, карыстаючыся якой бацькі ведаюць, у якім напрамку варта далей развіваць творчыя здольнасці малога. Натуральна, ад жадаючых уладкаваць сваё дзіця менавіта сюды, як кажуць, адбою няма. Ды і самі малышы з задавальненнем наведваюць гімназію, з нецярплівасцю чакаючы заканчэння чарговых выхадных...

Зрэшты, не ўсё тут так проста і шчасліва, як можа падацца на першы погляд. Па закону на ўтрыманне дашкольных устаноў выдзяляецца пяць працэнтаў з даходу ўсіх прадпрыемстваў, што знаходзяцца на тэрыторыі горада. Але сёння, калі "вытворчыя" справы ідуць не лепшым чынам, адпаведна скараціліся і гэтыя грошы. Выратоўвае толькі ўласная кемлівасць. Выцвілі фіранкі — перафарбавалі іх у новы колер, аздобілі карункамі, — лепш за новыя атрымаліся. Паламаныя цацкі, мэблю таксама не спяшаюцца выкідваць, — карацей, эканомяць, дзе толькі можна, спадзеючыся на лепшыя часы і шчаслівую будучыню сваіх выхаванцаў. Нездарма ж выбралі сабе такую назву — "Надзея".

## "Зорка радасці" Аляксандра Ксяндзова

Персанальную выставу Аляксандра Ксяндзова, якая адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, можна толькі ўмоўна аднесці да цыкла "Новыя імёны". Саракагадовы мастак у выяўленчым мастацтве далёка не навічок. Ён пачаў выстаўляцца яшчэ ў 1976 годзе, яго работы набыты Траццякоўскай галерэяй, музеямі нашай рэспублікі, а таксама захоўваюцца ў прыватных калекцыях Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Грэцыі, ЗША, Ізраіля, Германіі, Польшчы і многіх іншых краін. І ўсё ж новым можна назваць гэта імя хоць бы таму, што Аляксандр Ксяндзоў — прадстаўнік "Новай хвалі" беларускіх мастакоў, якія спрабуюць знайсці сваю сцежку ў постсавецкім мастацтве.

Што ж датычыць непасрэдна выстаўкі, якая адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі, то ахарактарызаваць яе можна адным словам: "Цудоўна!". На такую думку наводзяць не толькі арыгінальная тэхніка выканання работ і незвычайная колеравая гама, але і біблейская тэма, да якой на большасці палотнаў звяртаецца мастак. У Аляксандра Ксяндзова сваё бачанне класічных сюжэтаў, у прыватнасці, той жа "Тайнай вячэры" і "Зоркі радасці", якая абвясціла свет аб нараджэнні збавіцеля.

БЕЛІНФАРМ.

## Ахвяры "хваробы ад кахання"

*Успышка сіфілісу зафіксавана ў Лідзе і раёне. Калі за ўвесь мінулы год былі выяўлены 23 хворыя, то толькі ў студзені бягучага — 11. Не зменшылася іх колькасць і ў наступныя месяцы.*

Адзначана таксама значнае "амаладжэнне" носьбітаў хваробы. Напрыклад, 20-гадовая М., якая не працуе і не мае пастаяннага месца пражывання, за паўтара месяца бадзяжніцтва па горадзе і раёне "ўзнагародзіла" "хваробай ад кахання" звыш 50 мужчын. Нямала пацярпеўшых і ад 16-гадовай О. і 15-гадовай В., якія, дарэчы, не ведаюць ні імёнаў, ні месца пражывання сваіх палавых партнёраў.

БЕЛІНФАРМ.

ПОГЛЯД З-ЗА КУЛІС

# Звычайныя артысты звычайнага цырка

Колькі сябе памятаю, яшчэ дзяўчынкай я з захапленнем прыходзіла ў цырк. І хаця цырк наведвала даволі часта, кожны раз па-новаму перажывала сустрэчу са святам, якое дарылі людзі ў такіх прыгожых, такіх калярова-бліскучых касцюмах.

Цікава было яшчэ і тое, што ў апошняй праграме Мінскага дзяржаўнага цырка пад назвай "Вясновыя ластаўкі" на манежы было шмат менавіта маладых артыстаў — маіх равеснікаў. Каб адказаць на гэтае пытанне, я вырашыла зазірнуць у святая святых — за кулісы цырка, дзе артысты якраз чакалі свайго выхаду.

Не, там, за кулісамі, зусім не так святочна, як на арэне. Маленькае памяшканне, вузкая лавачка і непрыкметнае люстэрка, куды, выбягаючы на арэну, чарговая прыгажуня не-не ды і зірне... А яшчэ — розныя скрынкі, рэквізіт, нават прывязаны козлік-"артыст" з залатымі рагамі. Стаіць сабе, нешта жуе. Глянула на арэну — і дух захапіла. У паветры кувыркалася дзяўчынка... Як жа яна прызямліцца на такі тоненькі шост, які, праўда, надзейна трымалі моцныя рукі партнёраў па нумары? Але ўсё скончылася ўдачна, што пацвердзіў гром апладысментаў.

Крыху пазней я спыталася ў "лятаючых дзяўчынак" (а ў атракцыёне іх дзве), ці не страшна вось так, кожны дзень, рызыкаваць? Дарэчы, для іх гэта самая звычайная работа. Між іншым, зрабіць у 16-18 год двайное сальта з паваротам на 360 градусаў — жарт. Іхнія бацькі ўжо прывыклі да доўгіх трэніровак, працы да сёмага поту і... апладысментаў. Атракцыён называецца "Акрабаты на шасце". Кіраўнік — Сяргей Васільеў, нягледзячы на малады ўзрост, ужо лічыцца ветэранам — усё ж 13 гадоў на манежы. Былы гімнаст, а сёння — артыст цырка і добры настаўнік, сябар для партнёраў. Яшчэ з першым саставам Сяргей аб'ездзіў амаль паўсвету, і заўсёды майстэрства артыстаў выклікала самыя гарачыя апладысменты. А потым, калі той састаў распаўся (хто замуж выйшаў, хто з'ехаў), аднавіў нумар. Так бы мовіць, "стварыў" новых артыстаў, у чым яму вельмі дапамог дырэктар Мінскага цырка Уладзімір Пашкевіч. А яшчэ, калі ўжо падрастуць дзеці, марыць Сяргей і пра сямейны нумар. І, упэўнена, усё так і будзе.

Свята — заўсёды свята. Мала хто задумваецца пра тое, што акрамя цяжкіх трэніровак, хвалявання перад выступленнем і прыняцця апладысментаў, у артыстаў хапае іншых, больш жыццёвых праблем. Самім прыходзіцца думаць і пра касцюмы, і пра рэквізіт, і пра многае іншае. Ды яшчэ шматлікія пераезды, калі дома не бываеш месяцамі. Розныя людзі, але лёс адзіны на ўсіх — цыркавы. Так што складваецца ён у кожнага па-свойму. І дай Бог, каб добра.

Звычайныя людзі? У некаторым сэнсе так. І ўсё ж незвычайныя, хаця б таму, што менавіта такімі яны здаюцца нам, удзячным гледачам.

В.МАХОНІНА.

